Брэсцкае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі

Кафедра беларускага літаратуразнаўства філалагічнага факультэта
Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А.С.Пушкіна

# Адкрыццё-2011

*Зборнік лепшых твораў удзельнікаў літаратурнага конкурсу “Суніцамі пахне Айчына”*

Брэст
ААТ “Брэсцкая друкарня”
2012

У гэтай кнізе сабраны лепшыя творы ўдзельнікаў літаратурнага конкурсу для дзяцей і моладзі “Суніцамі пахне Айчына”, абвешчанага Брэсцкім абласным аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі ды кафедрай беларускага літаратуразнаўства Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А.С.Пушкіна ў 2011 годзе ў гонар 75-гадовага юбілею выдатнага беларускага паэта Міхася Рудкоўскага, радзімай якога з’яўляецца Ганцаўшчына.

## Літаратурны феномен Ганцаўшчыны

Суніцамі пахне Айчына…

Не радкі, а смаката. Яны – з верша выдатнага беларускага паэта Міхася Рудкоўскага (1936 – 1991), які нарадзіўся ў в.Востраў Ганцавіцкага раёна і які прыйшоў у беларускую літаратуру ў пачатку 60-х з самай глыбінкі Палесся. Пасля заканчэння Астравіцкай васьмігадовай школы М.Рудкоўскі выбірае высакародную прафесію настаўніка і паступае ў Ганцавіцкае педагагічнае вучылішча. Неўзабаве разам з іншымі навучэнцамі пераведзены ў Пінскае педвучылішча, і ў 1955 годзе ён – выпускнік гэтай навучальнай установы. Наступныя пяць гадоў давялося спалучаць працу ў Кукаўскай сямігодцы (Ганцавіцкі раён) і вучобу на завочным аддзяленні філалагічнага факультэта Брэсцкага педінстытута імя А.С.Пушкіна, працаваў на абласным тэлебачанні.

Захапленне паэзіяй, жаданне пісаць прывяло М.Рудкоўскага ў рэдакцыю ганцавіцкай раённай газеты "Сялянская праўда", якая яшчэ ў 1958 годзе апублікавала яго першыя вершы ("Успаміны, "Восень" і інш). На той час рэдакцыю газеты ўзначальваў вядомы журналіст, пісьменнік Васіль Праскураў. Ён стаў для паэта-пачаткоўца сапраўдным настаўнікам і дарадцам, а праца ў рэдакцыі пад яго кіраўніцтвам – першай літаратурнай школай.

У 1962 годзе Міхась Рудкоўскі пераехаў у Брэст, доўгі час працаваў рэдактарам літаратурна-драматычных і музычных перадач Брэсцкай студыі тэлебачання, пісаў вершы. Яны складалі ўсё новыя і новыя паэтычныя зборнікі, якія з часам станавіліся вядомымі не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі: "Першыя вёрсты" (1963), "Сінія Брады" (1967), "Позвы" (1971), "У краі тым" (1975), "Векавечная Бацькаўшчына" (1976), "Трыгор'е" (1981), "Засцярога" (1984), аднатомнік выбранай лірыкі "Залатазвон" (1986), "Гарынь" (1992). Апошняга з названых зборнікаў паэт, праўда, не дачакаўся. Летам 1991 года яго не стала. Пахаваны ў роднай вёсцы Востраў. На радзіме створаны Літаратурны музей М. Рудкоўскага, Вострaўская сярэдняя школа носіць імя пісьменніка-земляка. На доме ў Брэсце, дзе ён жыў, устаноўлена мемарыяльная дошка.

Роднай вёсцы паэт прысвяціў дзівосны верш:

**Востраў**

*Што, дружа мой, і ты успомніў Востраў,*
*сяло па-над Начанкай прыгадаў,*
*адкуль мы паляцелі у дарослaсць,*

*як птушаняты з цёплага гнязда?*

*Мы дзверы інстытутаў адчынялі,*
*а ён паціху жыў –*
*касіў, араў.*
*Усё радзей яго мы ўспаміналі,*
*а ён ніколі з нас не забываў.*

*І слаў лісты нам, слаў кавалкі сала,*
*што браў на дне прасоленых кублоў.*
*Знімаў кажух з плячэй сваіх, бывала,*
*калі каму з нас холадна было.*

*Таму цяпер, саскочыўшы з машыны,*
*мужчыны, што пабачылі ўсяго,*
*нібы зайцы ад пуху канюшыны,*
*п'янеем мы ў ваколіцах яго...*
*Карціць працытаваць і вось гэты верш:*

* * *

*Прад тым як упасці,*
*Навекі прапасці,*
*Песні чатыры хацеў бы я скласці.*
*Найпершая песня –*
*Маці,*
*Што ў муках мяне нарадзіла;*
*А песня другая –*
*Айчыне,*
*Што сілу дала мне і крылы;*
*А трэцяя песня –*
*Каханай,*
*З якой і ў нягодах быў шчасны;*
*Чацвёртая –*
*і апошняя –*
*Сонцу,*
*Каб людзям свяціла ўсёчасна,*
*Бясконца.*
*Ці ўспею іх скласці,*
*Не знаю,*
*не знаю, –*
*Паціху складаю...*

Ганцаўшчына – не проста маляўнічы куток Берасцейшчыны, а суцэльная паэзія. Таму ніякага дзіва ў тым няма, што на конкурс, прысвечаны 75-годдзю паэта, адгукнуліся сотні юных талентаў. Прычым, значнай часткаю – якраз землякі паэта.

Прыемна здзівіў высокі мастацкі ўзровень твораў падрастаючых ганцаўчан. Невыпадкова асобныя з іх – Аксана Рылка ды Аліна Філюціч – выйшлі пераможцамі конкурсу. Дый зборнік гэты таксама напалову, калі не болей, прадстаўлены менавіта юнымі прадстаўнікамі гэтай унікальнай у творчым плане зямлі.

Вось яно, чарговае пацверджанне таго, што літаратурны феномен  Ганцаўшчыны – з’ява рэальная, не надуманая нават на дробачку. Пра яе нямала ўжо сказана даследчыкамі прыгожага пісьменства Беларусі.

Карані яе – у глыбінях народнага слоўнага майстэрства. Фальклорнае багацце гэтай часткі Палесся, імёны, прозвішчы, зрэдку мянушкі самабытных мастакоў вуснапаэтычнага слова ўпершыню адкрыў у пачатку XX стагоддзя Аляксандр Казіміравіч Сержпутоўскі. Традыцыі славутых апавядальнікаў Рэдкага, Матруны Бохмачыхі, Данілы Куляша і іншых захаваліся да нашага часу, што пацвяржаюць шматлікія фальклорныя экспедыцыі і сучасныя запісы народнай спадчыны, у тым ліку зборнік казак “Чыстага ўсё нячыстае баіцца” (2001), падрыхтаваны пісьменнікам-земляком Алесем Каско.

Вялікую мудрасць і філасофію жыцця бачыў у беларускіх народных казках, апавяданнях, легендах і паданнях Якуб Колас, пачатак педагагічнай дзейнасці якога звязаны з вёскай Люсіна Ганцавіцкага раёна.

Далей літаратурнае жыццё на Ганцаўшчыне, дзе жылі і працавалі А. Сержпутоўскі і Я. Колас, актывізавалася толькі ў пасляваенны перыяд. Асаблівую заклапочанасць у гэтай справе праяўляў Васіль Фёдаравіч Праскураў, які ў 1950 годзе прыехаў у Ганцавічы і застаўся тут назаўсёды. Звязаўшы свой лёс з раённай газетай “Сялянская праўда” (пасля “Савецкае Палессе”), В. Праскураў стаў не толькі прафесійным журналістам і прызнаным пісьменнікам-нарысістам. Для творчай моладзі ён быў педагогам, літаратурным настаўнікам, які па-бацькоўску – патрабавальна і зычліва – апекаваўся маладымі аўтарамі. Некалькі дзесяцігоддзяў вакол яго гуртаваліся здольныя журналісты і пісьменнікі-пачаткоўцы. Дзякуючы яго падтрымцы прыйшлі ў літаратуру Іван Кірэйчык, Міхась Рудкоўскі, Віктар Гардзей, Кастусь  Мохар, Алесь Каско, Уладзімір Марук, Мікола Антаноўскі.

З блаславення Васіля Фёдаравіча філалогія стала справай жыцця Галіны Ішчанка (нар. у 1963 годзе ў в. Будча). Сёння яна – кандыдат філалагічных навук, дацэнт Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А.С. Пушкіна, адзін з аўтараў школьных праграм і падручнікаў па беларускай літаратуры.

Пералічаныя вышэй літаратары, за выключэннем М. Антаноўскага, – ураджэнцы Ганцавіцкай зямлі, вядомыя ў Беларусі паэты, празаікі, навукоўцы. Мікола Антаноўскі родам з вёскі Сташаны Пінскага раёна, але некаторы час працаваў разам з Васілём Праскуравым у рэдакцыі раённай газеты, набіраўся тут вопыту ў журналісцкай і літаратурнай дзейнасці.

У канцы 50-х гадоў намеснікам рэдактара "Сялянскай праўды" быў беларускі кнігавыдавец, перакладчык і публіцыст Міхаіл Дубянецкі (1927–1990, нар. у в. Востраў Пінскага раёна). У рэдакцыі газеты "ніхто не здзіўляўся, калі ў праёме пахілых весніц над навіссю жоўтых акацый" (В. Гардзей) з'яўляўся Мікола Купрэеў (1937–2004). Паэт-вандроўнік часта на тыдзень-другі спыняўся ў Ганцавічах. Гэты куток Палесся ён добра ведаў (у свой час настаўнічаў у Чудзінскай і Малькавіцкай сярэдніх школах) і любіў "апантана, з нейкай малавытлумачальнай пяшчотай і сыноўняй замілаванасцю, чаму ў ягонай лірычнай паэзіі, – як адзначае В. Гардзей, – ёсць безліч вартых прыкладаў". Вось адзін з іх:

*Мілая бярозка, не бядуй:*
*Мы яшчэ з табою ўстрапянёмся.*
*Толькі заўтра на зары*
*Ў сукенку найбялейшую адзенься.*

*Белую кашулю я і сам*
*на сябе надзену, прычашуся.*
*І пойдзем мы з табою каля рэк*
*нашай добрай роднай Беларусі.*

*Мілая бярозка, не бядуй:*
*мы з табой яшчэ пачуем,*
*як прыходзіць вечар на палі,*
*і ў траве ля Начы заначуем.*

*А раніцой ты веццем узмахнеш*
*светла і зялёна, як ніколі.*
*І будзем мы, абняўшыся, стаяць,*
*слухаць, як расце над намі поле.*

Іван Кірэйчык (1935–1996) належыць да пакалення пісьменнікаў, дзяцінства якіх абпаліла вайна. Яго бацька, Аляксандр Цімафеевіч, загінуў на фронце ў 1945 годзе. Маці, Лізавеце Герасімаўне, давялося адной выводзіць дзяцей – сына і дачку – у людзі. У вёсцы Гута Ганцавіцкага раёна, дзе жылі Кірэйчыкі, Лізавету Герасімаўну ведалі як таленавітую спявачку, выдатнага знайцу беларускіх народных песень, павер'яў, прыкмет, прыказак і прымавак. Менавіта маці перадала Івану любоў да сваёй зямлі, роднага слова.

**Дарога дадому**

*Неўпрыкмет адступае знямога,*
*Адпадае сама па сабе,*
*Калі бліжай дадому дарога,*
*Калі мама чакае цябе.*

*І забыты бальшак глухаваты,*
*І праз неруш пратоптаны снег, –*
*Сустракай мяне, крайняя хата,*
*З самым добрым святлом у акне!*

*Недзе ў прыцемках посвіст палоззя*
*Чуйна ловіць абвостраны слых,*
*Мне насустрач двайняткі-бярозы*
*Ужо выбеглі з вёскі ўдваіх.*

*Мне рамонкам запахне прыветна*
*Са стажка, што да долу прымёрз,*
*Нібы сам яго толькі што з лета*
*Я сюды, да сядзібы прывёз.*

*Мяне садзік пазнае здалёку,*
*Што ля хаты прыціх да пары.*
*І слязінку адчуеш на воку,*
*Зачыняючы брамку ў двары.*

*Будзе ў хаце гамонка прыўзнятай,*
*І да пеўняў ніхто не засне...*
*Сустракай мяне, крайняя хата,*
*З самым цёплым святлом у акне.*

Іван Лагвіновіч нарадзіўся ў 1940 годзе на хутары Запрапасць, што каля Малькавіч. З Ганцаўшчынай былі звязаны толькі першыя семнаццаць гадоў яго жыцця. Затым быў Данбас – вучоба ў горнапрамысловым вучылішчы, праца на вугальных шахтах. Настальгія па родным краі не пакідала нават у снах:

*Я тады толькі бачу*
*каляровыя сны,*
*калі часам прысніцца*
*родны край незабыты –*
*светлай памяці хутар,*
*рай часовы зямны,*
*ручнікамі чаромхаў*
*і бяроз апавіты.*

*Там сунічны, брусніцны*
*ці малінавы дзень*
*і не проста клякоча –*
*Богу моліцца бусел.*
*Для мяне толькі там*
*кветка шчасця цвіце –*
*на грудку неараным,*
*на някошаным лузе...*

У 1991 годзе Іван Лагвіновіч вярнуўся на Берасцейшчыну. Жыве ў Баранавічах. Ён – аўтар трох паэтычных кніг: “Разлукі выраёвыя”, “Піліпаўка”, “Ляда юдолі”.

Віктар Гардзей нарадзіўся ў вёсцы Малыя Круговічы ў першы пасляваенны год. Яшчэ вучнем ён упершыню заявіў пра сябе, апублікаваўшы ў газеце “Піянер Беларусі” апавяданне “Памылка” (1963 г.). У наступным годзе ў рэспубліканскім друку з’явіліся яго вершы. Першы творчы вопыт спатрэбіўся, калі неўзабаве пасля заканчэння школы (1964 г.) Віктар стаў працаваць спачатку ў рэдакцыі ляхавіцкай раённай газеты “Будаўнік камунізму” (1965–1966), а затым – у ганцавіцкай раённай газеце “Савецкае Палессе” (1967–1983 гг.), дзе займаў розныя пасады: загадчык аддзела пісьмаў, адказны сакратар, намеснік рэдактара. Перыяд працы ў “Савецкім Палессі”, у многім дзякуючы старэйшаму сябру і літаратурнаму настаўніку В.Ф. Праскураву, быў плённым як у журналістыцы, так і ў літаратуры. Працаваў у часопісах “Беларусь”,

“Родная прырода”, “Маладосць”, “Полымя”, “Вожык”. Цяпер – у выдавецтве “Мастацкая літаратура”.

Ва ўсіх сваіх паэтычных зборніках – “Касавіца” (1975), “Верасное палясоўе” (1978), “Засевак Радзімы” (1983), “Незабудкі азёр” (1985), “Узрушэнне” (1988), “Дзікая пчала” (1994), аднатомніку выбранай лірыкі “Зялёныя дажджы” (1997), “Межань” (1999) – Віктар Гардзей выступае адданым сынам, шчырым патрыётам палескай зямлі. Яна для яго як матуля, якая “атуліла ласкавым крылом”. Вось чаму ў паэта заўсёды “ёсць патрэба родны бачыць дом”:

*Як бы край ні вабіў невядомы,*
*Як бы новы ні дражніў блакіт,*
*Сэрца, там пакінутае дома,*
*Да сябе прыцягне, бы магніт, –*

Віктар Гардзей надзелены талентам не толькі тонкага лірыка, але і цікавага празаіка. Ён – аўтар шэрагу апавяданняў, аповесцяў, раманаў, якія склалі кнігі “Дом з блакітнымі аканіцамі”, “Карані вечнага дрэва”, “Уратуй  ад нячыстага”. Яго пяру таксама належаць трылогія “Аселіца ў басейне Чорнага мора” і раман “Бедна басота”.

Шмат паэтычных кніжак выдаў Віктар Гардзей для дзяцей: “Чырвоны грабеньчык” (1976), “На арэхавай палянцы” (1982), “Коцікі на вярбе” (1988), “Мой тата – трактарыст” (1989), “Зай, які лічыў варон” (1991), “Зайкава балалайка” (1998).

Займаецца В. Гардзей і перакладчыцкай дзейнасцю. На беларускую мову ён пераклаў раманы Г.Флабэра “Саламбо” і Р.Стывенсана “Чорная страла”, аповесць-казку Э.Гофмана “Шчаўкунчык і мышыны кароль”, кнігу казак народаў Еўропы “Хрустальны калодзеж” і інш.

Да 50-годдзя пісьменніка імя Віктара Гардзея нададзена вуліцы, на якой ён нарадзіўся і жыў у Малых Круговічах.

Сапраўднае прозвішча Алеся Каско (нарадзіўся ў 1951 годзе ў в.Чудзін) – Казка. У 1968 годзе ён паступіў у Брэсцкі педінстытут, пісьмова заявіўшы, што я паэт, бо надрукаваў верш “Пралескі”, дароблены Віктарам Гардзеем, у ганцавіцкай раёнцы. Вучыўся перш за ўсё ў Калесніка, а яшчэ ў Ляшук, Карлава, Малажай, Майсейчыка. Сябраваў з “апальным” Разанавым ды з іншымі цудоўнымі хлопцамі-паэтамі: Пракаповічам, Зайкам, Гарбаруком, Цімошыкам. Пазнаеміўся пазней з Рудкоўскім, Жуковічам, аддаваў нярэдка свой студэнцкі ложак бадзягам Купрэеву, Кірэйчыку.

Доўгі час узначальваў Брэсцкае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі. Аўтар кніг паэзіі «Скразная лінія» (1982), «Набліжэнне» (1989), «Час прысутнасці» (1994), зборніка выбранай паэзіі (1997), «Сорак пяць» (1997), "Нічога больш", народных казак "Чыстага ўсё нячыстае баіцца", адзін з трох аўтараў калектыўнага зборніка "Трохперсце" (2008), аўтар калетыўнага зборніка "Нашчадкі" (1979).

Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова.

Празаік Алесь Кажадуб з 1990 года жыве ў Маскве, аднак яго дарога ў вялікі свет пачалася з родных Ганцавіч. Затым была вучоба ў школе і на аддзяленні рускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта. Пасля яго заканчэння (1974) Алесь Канстанцінавіч год адпрацаваў настаўнікам у вёсцы Крайск Лагойскага раёна і перайшоў на пасаду малодшага навуковага супрацоўніка ў Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР. З 1977 па 1981 год працаваў рэдактарам літаратурна-драматычных праграм рэспубліканскага тэлебачання. Потым быў літсупрацоўнікам аддзела публіцыстыкі часопіса "Маладосць" (1981–1983). У 1985 годзе скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве і заняўся творчай працай.

Літаратурны дэбют Алеся Кажадуба адбыўся ў 1976 годзе, калі ў часопісе "Маладосць" было надрукавана яго першае апавяданне "У канцы лета". Апавяданне і аповесць сталі любімымі жанрамі пісьменніка і склалі кнігі "Гарадок" (1980), "Размова" (1985), "Лесавік" (1987), "Дарога на замчышча" (1990), "Святы калодзеж" (1994) і інш. У 1981 годзе ён быў прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі.

Вёска Гута – одно з "пісьменніцкіх гняздоўяў" на Ганцаўшчыне. Адсюль прыйшлі ў літаратуру Іван Кірэйчык і Уладзімір Марук.

Уладзімір Антонавіч Марук нарадзіўся 6 студзеня 1954 года ў сялянскай сям'і. Вучыўся спачатку ў Гуцянскай і Нацкай сярэдніх школах, затым – у Маўчадскай сярэдняй санаторанай школе-інтэрнаце Баранавіцкага раёна. Пасля яе заканчэння (1970 г.) паступіў у Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум, дзе правучыўся два гады. Гэты перыяд пазначаны выхадам Уладзіміра Марука ў друк.

Выкладаў беларускую мову і літаратуру ў сярэдняй школе № 106 г. Мінска (1980–1981 гг.), працаваў карэспандэнтам, загадчыкам аддзела літаратуры і мастацтва газеты "Звязда" (1981–1986 гг.), рэдактарам, загадчыкам рэдакцыі выдавецтва "Юнацтва" (1986–

1998). Некаторы час быў галоўным рэдактарам выдавецтва “Белфакс”, намеснікам галоўнага рэдактара часопіса “Полымя”.

У літаратуры Уладзімір Марук вядомы найперш як паэт. Лірычны герой яго першага зборніка “Зоркі на кронах” (1982) прыкмячае, як “дрыжыць асіны ліст”, як “вецер мох скубе”, як “лапік... скупой слязою плача”, як туман “туліць да вёскі шчаку”, як “цяжка снег кладзецца на далонь...”. Гэтая тэма знайшла сваё далейшае развіццё, мастацка-філасофскае асэнсаванне ў наступных зборніках У. Марука – “Ліст рабіне” (1987) і “Інкрустацыя голасам” (1991).

З тых, хто застаўся жыць на Ганцавіччыне, многія не проста апантаны мастацкім словам. Яны – таксама твораць, выдаюць кнігі. Паэтычны зборнік “Летуценніца” выдала Ніна Кавальчук (нар. у 1958 г. у в. Хатынічы). Зямлячка Алеся Каско Ірына Дарафейчук (нар. у 1968 г. у в. Чудзін) з’яўляецца аўтарам кнігі “Сцяблінка на лязе”. У зборнік “Цянёты” сабраў свае вершы Віталь Псеўданім (Віталь Чабатарэнка, нар. у 1976 г. у в. Шашкі). Яго равеснік Анатоль Трафімчык з вёскі Вялікія Круговічы – аўтар двух кніг паэзіі: “Ноты цноты” і “Пасведчанне аб нараджэнні” (апошняя выйшла пад псеўданімам В. Толь). Дарэчы, В. Чабатарэнка і А. Трафімчык – выпускнікі філалагічнага факультэта Брэсцкага педінстытута імя А.С. Пушкіна. Па публікацыях у раённым і рэспубліканскім друку чытачы знаёмы з творчасцю Кастуся Мохара (нар. у 1946 г. у г. Ганцавічы), Ніны Таўстын (нар. у 1948 г. у в. Хатынічы) і Святланы Локтыш (нар. у 1971 г. у в. Люсіна, у 2008-м выдала паэтычны зборнік “Вышыванка”, з 2011-га – член Саюза пісьменнікаў Беларусі).

Літаратурную Ганцаўшчыну прадстаўляюць і тыя, хто па волі лёсу жыве і працуе ў гэтым рэгіёне. Ганцавічы сталі роднымі для Святланы Асаўцовай і Аляксея Галаскока. С. Асаўцова піша на рускай мове як вершы, так і прозу, мае зборнік “Я живу для добра”. А. Галаскок – аўтар паэтычнай кнігі “Не шкадуюць мяне мае вершы”.

Вось такая яна фенаменальная – зямля Ганцавіцкая.

Разам з паэтам Міхасём Рудкоўскім усе ўдзельнікі літконкурсу “Суніцамі пахне Айчына” сапраўды ўдыхнулі водар Радзімы. З дзяцінства самы смачны і самы родны.

Як і ў папярэдніх конкурсах, у гэтым школьнікі, студэнты, старэйшая моладзь каторы ўжо раз праявілі надзвычайную актыўнасць, у выніку чаго на суд журы паступіла больш за дзве сотні работ. У большасці сваёй яны выкананы на вельмі высокім мастацкім узроўні. Таму, прадстаўляючы ў зборніку пераможцаў, ёсць пільная

неабходнасць агаварыцца: тыя, хто не атрымаў Дыпломы пісьменніцкага аддзялення, не горшыя за пераможцаў творцы; відаць, проста гэта быў не іх год. А ў наступным яны абавязкова зоймуць прызавыя месцы. Тым больш, што ўзроставы цэнз дазваляе тое рабіць ажно да дасягнення трыццацігадовага ўзросту.

Ну, а дыпламанты ў любым выпадку заслугоўваюць таго, каб назваць тут іх імёны. Гэта Аксана Рылка з Хатыніч, што ля самых Ганцавіч, Аліна Цвікевіч з г.Іванава, Дзяніс Трацюк з в.Дарапеевічы Маларыцкага раёна, Дар'я Ніканчук з Жабінкі, Аляксей Таболіч з Брэста і Аліна Філюціч з г.Ганцавічы.

Намінанты, як і належыць, атрымалі ўзнагароды, каштоўныя кнігі, салодкія падарункі з рук намесніка старшыні Брэсцкага абласнога выканаўчага камітэта Леаніда Аляксандравіча Цупрыка на велічным літаратурным свяце "Лунінская восень". Тут юныя творцы адначасова былі сведкамі ўручэння абласной літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Калесніка лаўрэатам Мікалаю Елянеўскаму (проза), Мікалаю Кавалевічу і Алесю Корневу (паэзія), Міхаілу Туруноўскаму (дзіцячая літаратура).

У гэтым сшытку, як і ў папярэднім, сабрана лепшае з дасланага на конкурс, у тым ліку, вядома, і творы пераможцаў. Тым часам літаратурнае спаборніцтва працягваецца. Сёлета яно азорана 90-гадовым юбілеем Уладзіміра Калесніка, імем якога пазначана абласная літаратурная прэмія. Наступныя конкурсы таксама ж будуць прымяркоўвацца да велічных дат, прычым, не толькі тых, якія маюць дачыненне да мастацтва, культуры, але і агульнанацыянальных, аднолькава важных для ўсяго беларускага народа.

Дасылайце нам свае творы. Галоўнае, каб у іх было нешта блізкае-блізкае да азначэння "Адкрыццё". Дзякаваць Богу, такіх пастудае на конкурсы абласной пісьменніцкай арганізацыі нямала, у чым вы ў чарговы раз пераканаецеся, прачытаўшы гэты сшытак.

***Анатоль Крэйдзіч,***
***старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.***

**Аксана Рылка, 16 год, Хатыніцкая сярэдняя школа (Ганцавіцкі раён)**

## Запавет

Бацькаўская хата, родная веска, мілы сэрцу куточак зямлі, дзе пралягалі сцежкі твайго дзяцінства, любая Айчына...Бездань дрыготкіх пачуццяў і любых сэрцу меладый напаўняюць душу пры адным толькі ўспаміне аб іх.

Я і мае аднагодкі генетычна знітаваны з Ганцаўшчынай, тым месцам, дзе мы нарадзіліся і выраслі, дзе бруяцца крыніцы высокай духоўнасці, куды сягае агонь берасцейскага вогнішча.

Сваю асаблівую ўдзячнасць мы, аматары паэзіі, шлём Востраву, вёсцы, дзе нарадзіўся, вырас, пайшоў у шырбкі свет і дзе знайшоў вечны спачын знакаміты берасцейскі паэт, пясняр Айчыны, пераемнік Багдановіча і Купалы, светач палескага Адраджэння Міхась Рудкоўскі, якому сёлетняй вясной споўнілася б 75. Услухаемся і пачуем, як і сёння залатазвонам гучыць ягоны голас:

О, Скарыны зямля,
нескароная воляй і духам,
Край Купалы
і мілае песні купальскае край!
Беларусь, Беларусь -
мая светлая радасць і скруха,
Шлях мой Млечны,
мой роены чаромхавы май!

... Ледзь толькі заружавела неба на ўсходзе, маці будзіць Міхаську:

- Уставай, дзцятка. Пасвіць статак нам чарга. Чарга наша. Міхаська ўсхапіўся, хуценька працёр вочы, саскочыў з ложка, схапіў камізэльку. Маці падала сабраную ёю торбачку з ежай.

Хлапчук таропка выбег з хаты. Праз плот убачыў: па вуліцы Мястэчка ідуць каровы.

Ранак дыхаў свежасцю. Дзень абяцаў быць прыгожым. Узыходзіла сонца, і паўнеба было акрэслена малінавай фарбай. Сям-там бачыліся лёгкія воблачкі.

Каровы ішлі добра знаёмай дарогаю, самыя рагатыя - наперадзе. Хлопцу-пастушку заставалася толькі ісці за імі. Калі статак дайшоў да луга, каровы прагна накінуліся на траву.

Лугавыя краскі раскрываюць свае пялёсткі і цягнуцца да сонейка. Трава з кропелькамі расы зіхаціць зялёным бляскам. У ёй

рассыпы кветачак: люцікаў, рамонкаў, званочкаў… Трапечуцца над траўкай матылькі.

А вось прачнуўся і жаўранак. Радуецца сонейку, вітае хлопца-пастушка. Агорнуты радаснай задуменнасцю, Міхаська слухае чароўную мелодыю галоўнага песняра паднябесся, сатканую са звону срэбных струн ручайка, з зумкання пчолак і шапацення красак пад павевамі лёгкага ветрыка.

Любіць хлопчык лецейка. У Міхаські дыхание захоплівае: вакол столькі прыгажосці, што хочацца спяваць. А ён жа, Міхаська, гаспадар улоння. І Міхаська марыць, марыць…

Ён бачыць сябе за штурвалам вялікага акіянскага карабля: як жа, яны са сваім сябрам Іванам, калі закончаць школу, абавязкова пойдуць у мараходку. Хлапчук, здаецца, адчувае на сваім твары салёныя марскія пырскі.

Вярнуўшыся у рэальнасць, Міхаська хутчэй кідае позірк на статак. На шчасце, рагулі не разбрыліся, мірна скубуць траву. Паша тут добрая: вядома, разнатраўе.

Хлапчук азіраецца па баках,. Заўважае, як з травы на яго глядзіць белым вочкам сунічнік, а побач з кветачкай зусім спелая ягадка. Адна, другая, трэцяя… Рукі міжволі цягнуцца да іх. Міхаська кідае духмяныя ягадкі ў рот. Ах, сунічкі, сунічкі… Якая смаката! А які пах!

Ягадкі нагналі апетыт. Захацелася есці. Хлапчук кідае камізэльку на траву, садіцца на адзежынку, вымае з торбачкі няхітры сняданак: луста хлеба, некалькі вараных бульбін, кусочак сала. Пры добрым апетыце сняданак здаўся царскім.

Падсілкаваўшыся, Міхаська падае на траву, раскідае шырока рукі і ногі і глядзіць у высоісае неба. Як добра жыць на'свеце! Столькі радасці наперадзе: гульні з сябрукамі Іванам, Чэсем, Вецем, любімыя кніжкі, сястрычкі Ліда і Іра, якіх ён будзе катаць на веласіпедзе, потым школа, потым…

Ачнуўшыся, пастух паглядзеў у бок статку. Каровы зрабілі перапынак і адна за другой улягліся адпачываць, старанна жуючы жуйку. Міхаська выкарыстоўвае гэты адпачынак рагуль і нацянькі бяжыць да Начанкі, на сваё улюбёнае месца - Высокі бераг. Потым, стаўшы паэтам, ён напіша:

*О, бераг дзяцінства – выраю бераг!*
*Як бацьку, табе я і верый, і веру,*
*За тысячы вёрстаў, за трыдзевяць зімаў*
*Кілімам жывым ты ўстаеш прад вачыма…*

*О, бераг дзяцінства –*
*бераг Айчыны.*

І многа, многа разоў, ужо будучы паэтам, Міхась Рудкоўскі будзе і на яве, і ў снах вяртацца сюды, да мілых куточкаў бацькаўшчыны.

Шчымлівыя, пранізлівыя паэтычныя радкі будуць прсвечаны і роднаму Востраву:

*Ёсць Востраў у мяне. Паміж бароў,*
*Як між заліваў хвалістых, ляжыць ён.*
*Там жоўты месяц плавае ў жыце*
*У песнях трактароў і камароў…*

Поўныя любові радкі паэт прысвеціць Ганцавічам і ганцаўчанам:

*Ёсць ціхі гарадок над рэчкай Цною,*
*Сярод лясоў палескіх і балот...*
*Не знаю, што ў жыцці было б са мною,*
*калі б яго на свеце не было*

*Ёсць Ганцавічы - ёсць! -*
*і я шчаслівы,*
*шчаслівы, што яны на свеце ёсць.*

А пакуль, пакупаўшыся, Міхаська падымаецца на ўзгорак. Бацюхны! Ён увесь усыпаны суніцамі. Вакол усё чырванее. Ага, дык тут жа сапраўды сонцагрэў. Хлапчук цэлымі жменькамі сыпле ягады ў рот. Яны такія салодкія, такія духмяныя - сапраўдныя сонейкі. Сунічны во дар разносіцца па наваколлі. Ці не такія хвіліны ўспомняцца ўжо паэту Міхасю Рудкоўскаму, калі ён напіша:

*Суніцамі пахне даліна...*
*Свой статак пусціў я на верас,*
*а сам па акопах зарослых,*
*без шапкі і босы,*
*я лажу, рву ягады, кідаю ў рот,*
*смяюся вавёркам і сонцу...*

*Суніцамі пахне Айчына...*

А дзе ж статак? З пагорачка добра відаць – пасецца. Хлапчук накіроўваецца да статку. Сонца, абышоўшы паўнеба, пачынае спускацца да гарызонта. Ад алешын, што ля ракі, кладуцца доўгія

цені. Пара статку вяртацца ў вёску. Пастушку-летуценніку і добра ў адзіноце сам-насам з прыродаю, але і хочацца ўжо дамоў. Рагулі таксама ўжо хочуць даіцца: вунь, якое вымя нагулялі яны за дзень. Няспешна, нібыта разумеючы, што яны выканалі свой дзённы абавязак, брыдуць каровы, падымаючы капытамі пыл. Пахне малаком, пылам ... і суніцамі.

Міхаська ідзе за статкам, а думкамі ён ужо дома. Яму бачыцца як сястрычкі Лёдзя і Ірынка, чакаюць яго, стоячы на двары за зачыненаю брамкай. Маці строга наказала ім не быць на вуліцы, калі па ёй ідзе статак: якая-небудзь рагуля з норавам можа і бадануць. Ён зразу ж аддасць ім зроблены з бяросты карэц з суніцамі. Маці, управіўшыся па гаспадарцы, з даёнкай чакае сваю Вішаньку. Падаіўшы, спешна збярэ на стол вячэру. Сядуць за стол і мама скажа:

- Дзякуй Богу, добра дзянёк прайшоў. Чаргу адпасвіў Міхаська, тата сенажаць дакасіў. Каб жа хоць дажджы не пайшлі, каб добра сена высушыць.

Мама працягне руку, каб пагладзіць яго па галаве, але ён адхінецца:

- Ну, мама, яж не маленькі.

Дзяўчаткі будуць шчыраваць над суніцамі. Старэйшая, Лёдзя, крыху падзюбаўшы ягад, пакіне меншай, Ірынцы. А тая, смешна вымазаўшы тварык, будзе ўплятаць іх за абедзве шчочкі. Потым адмовіцца ад вячэры, а мама, сказаўшы: "Ну і няма чаго дзіцяці наядацца на ноч" , нальe ёй кубачак сырадою.

Уявіў Міхаська гэткі малюнак, і па целе яго нават прабегла хваля цеплыні ад усведамлення шчасця жыцця.

Пазней, калі Міхаська стане вядомым паэтам Міхасём Рудкоўскім, стане гараджанінам, малюнкі, падобныя гэтаму, будуць паўставаць на яве і ў мроях, будуць жывіць яго сэрца і душу, будуць даваць яму сілы ў час складаных жыццёвых выпрабаванняў.

Сцяжынкі дзяцінства, партызанскія акопы, дзе яны з сябрукамі "ваявалі", рэчка Начанка, бацькоўскі дом, родныя яму людзі, пах хлеба, які мама пячэ, пах, які запаўняе усе куточкі іхняй хаты, і пах суніц -самыя цудоўныя пахі на зямлі - сальюцца у адзін вялікі вобраз - вобраз яго векавечнай Бацькаўшчыны, вобраз любімай Айчыны, любоў да якой ён прнясе праз усё жыццё і перадасць нам, яго наступнікам, як самы вялікі свой запавет.

Суніцамі пахне Айчына...

**Аліна ЦВІКЕВІЧ, 13 год, гімназія г.Іванава**

## Сінія Брады

Вечарам Міхаська доўга не мог заснуць,ўсё варочаўся з боку на бок. А калі нарэшце заснуў, то прысніў Сінія Брады. І вада там сіняя-сіняя, чыстая-чыстая. А ён купаецца ў гэтай вадзе і адчувае,як набіраецца ад яе сілы і моцы. І чуе ён нечый голас, які сцвярджае, што тут, у Сініх Брадах, вада казачная, жывая, што яна імгненна гоіць душэўныя раны. А ён купаецца , плёскаецца ў гэтай вадзе і атрымлівае такую асалоду...

Калі прачнуўся, промні сонца ўжо заглядвалі праз акно ў яго пакой. Міхаська ўсё яшчэ быў пад ураджаннем убачанага сну, і яму захацелася наяву пабыць там, на Сініх Брадах. Схапіўшы са стала лусту хлеба, выскачыў на падворак. Каля хлява бацька нешта, як звычайна, майстраваў, маці завіхалася па гаспадарцы. Нікім не заўважаны, ён выбег за брамку і пашыбаваў у бок лесу, за якім і знаходзіліся Сінія Брады.

Ранак. Міхаська любіць у такі час бываць у лесе. З незразумелым душэўным хваляваннем ён уваходзіць у яшчэ сонны лес, міжволі запавольваючы крокі. Усё гарыць, усё ззяе: тут царства расы! Лясная зямля яшчэ вільготная, амаль не чуваць яе пад нагамі, ззаду застаецца цёмны выразны след. Мокрыя травінкі ў пацерках align рознакаляровых кропелек. Цішыня. Калі-нікалі парушаюць яе сонныя галасы птушак. Міхаська ведае, што раса і цішыня будуць панаваць у лесе гадзіны з дзве, а потым казка закончыцца і пачнецца сухі, цёплы асенні дзень "бабінага лета". Павучкі-вандроўнікі яшчэ не пачыналі сваё штодзённае падарожжа: чакаюць пакуль абсохне раса на іх парашуціках, белых ніцях-павуцінках. На блакітным небе - ні воблачка.

Па знаёмай сцяжынцы накіроўваецца да разгалістага старога дуба, што стаіць на палянцы. Ён многа пабачыў на сваім вяку, гэты дуб. Кара на ім маршчыністая, мае гузаватыя нарасты і залысіны, але яго магутныя галіны рассцілаюцца прыгожа і велічна. Нават калі ў лесе яшчэ пануе прыцемак, паляна ўжо заліта сонечным святлом. Хлопчык любіць бываць тут, у лесе, пад гэтым дубам, і, магчыма, гэтыя хвіліны душэўнага яднання яго з прыродай, з лесам і дапамогуць некалі нарадзіцца паэтычным радкам:

*Дзіўлюся, дрэвы, вашай дабраце*
*і мудрасці*
*і, як сабе, вам веру,*

*У лес, бы ў хату, адчыняю дзверы,*
*і лепей не бывае мне нідзе.*

Добра, спакойна тут, у лесе. Але начны сон не дае пакою, маніць туды, да Сініх Брадоў. І хлопчык па сцяжынцы кіруе на ўскрай лесу, дзе сіняй стужкай уецца рэчка. Сонца паднялося вышэй, стала прыграваць. У небе шэрай кропкай завіс жаўрук, бесклапотна звініць-спявае на ўсё наваколле. Міхаська задраў галаву ўверх, з усмешкай паглядзеў на маленькага шэрага спевака і пашыбаваў далей. А вось і рэчка. І хлопчыку захацелася наяву ўжо, як у начным сне, выкупацца ў гэтай чыстай, празрыстай вадзе. Ён ведаў, што вада халодная (сонца яшчэ пасля ночы не прагрэла яе, ды і восень ужо), але не ўтрымаўся. Хуценька зняў адзенне, злажыў яго на беразе і галышом кінуўся ў ваду. Ад холаду захапіла дух, сціснулася сэрца, але толькі на адно імгненне. А потым адчуў такую бадзёрасць, такую лёгкасць і асалоду. Здавалася, што гэтая казачная вада напаўняе кожную яго клетачку магутнай сілай, дае моц.

І колькі яшчэ разоў у сваім жыцці ён будзе вяртацца сюды "бы кулік з навальнічнага выраю" "у хвіліну трудную, у часіну шчасную", каб выкупацца як тады, у дзяцінстве, у гэтай рэчцы, набрацца зноў ад яе сілы і моцы, бо для яго заўсёды "Сінія Брады, родныя Брады, як малітва матулі ад напасці-бяды..."

**Дзяніс Трацюк, 17 год, БрДУ імя А.С.Пушкіна**

## Перад Іллёй

Вёска… Прахладнае паветра змяшалася з гукамі раніцы. Недзе ў адным канцы вёскі завёў сваю песню певень. На другім -- брэша сабака на цялушку, якую вывяла гаспадыня, каб напаіць вадой перад пашай.

Сонца ўжо паднялося, але паветра яшчэ не паспела добра прагрэцца.

- Уставай Васілёк, дзед ужо пайшоў Машку запрагаць, – прашаптала бабуля, нахіліўшысь да ложка.

Васіль павольна расплюшчыў вочы. Над яго галавой, у куце, вясеў абраз з рушнікам, каля акна стаяў вялікі круглы стол .

Васіль няспешна ўстаў, апрануўся і выйшаў на вуліцу. Дзед ужо запрог кабылу Машку.

- Ну давай Васька, прыгай на воз, – сказаў дзед кладучы косы наперад воза. – Паедзем на канаву, накосім травы каню з каровай. Заўтра ж свята, няможна…

Ногі Васіля звісалі з возу. Мокрая і халодная трава біла па іх. Васілю было прыемна і казытліва ад гэтага.

Праехаўшы лес і завярнуўшы да канала яны спыніліся.

- Бяры касу і пачынай касіць, – сказаў дзед здымаюцы хамут з кабылы.

Васіль узяў касу і зрабіў першы замах. Затым другі. Трэці. Трава пачала роўна класціся ў закос. Прыемны водар акутаў касара. Ні з чым не параўнальная раніца.

- Ох і будзе ж сёння смажыць, а заўтра абавязкова дождж дасць, – сказаў дзед абыходзячы ўнука.

Васіль не звярнуў увагу на словы дзеда і прадоўжыў касіць, хоць рукі ад нязвычкі ўжо балелі, але ж Васіль мужна трымаўся.

Ужо касілі ўдвох. Дзед крыху наперадзе, а Васіль ззаду…

Дома траву зкінулі каля хлява, у цень. Накрылі яе радзюшкай каб не высахла.

- Я у казню, па чарніцы, – загаварыла бабуля падыходзячы да дзеда і ўнука.

– Сняданак на стале. Палудзень у печы.

- А чым жа ты паедзеш? – Запытаў дзед.

- Ды прыехаў да суседкі сын, ён нас машынай і завязе і прывязе пасля палудня.

Бабка узяла вялізарны кош і накіравалася ў бок суседскай хаты. Васіль з дзедам пайшлі снедаць.

На стале нешта стаяла, але было накрыта белым рушнікам. Васіль зняў рушнік і перад ім адкрыўся чароўны свет багатага сялянскага стала. Пад рушнікам стаяла вялізная талерка з залацістымі блінцамі, якія смажыліся перад полымем у печы. Збанок з малаком, міска з дамашняй каўбасой і шмат чаго яшчэ.

Паснедаўшы, Васіль вырашыў зазірнуць у печ: “А што ж там бабуля нам смачнага на абед прыгатавала?”. У печы стаяў гаршок з духмянай, смачнай кашай.

- Я крыху адпачыну, – сказаў дзед, і пйшоў у пакой.

Васіль ціхенька узяў свой фотаапарат і пайшоў на двор.

“Вось гэта прыгажосць,- думаў хлопец, – у горадзе такога няма”…

Увесь сад быў смачна-зялёны. На кожнай яблыні былі, хоць яшчэ не смачныя, (не прыйшла пара) але дужа прываблівыя яблыкі.

Васіль выйшаў за двор і накіраваўся ў бок хаты свайго сябра. Яшчэ не адчыніўшы калітку, ён адчуў смачны водар.

- Добры дзень, – сказаў Васіль заходзячы ў хату.

- Ну здароў, – пацiскаючы далонь адказаў Алесь.

- А што у Вас так смачна пахне?

- Ды гэта маці пірагі пячэ. Заўтра як-ніяк свята.

- Праходзь Васіль. Пакаштуй майго пірага, – з усмешкай сказала цётка Надзейка.

Хоць Васіль і не быў галодны, але не мог не скаштаваць кавалак такога духмянага пірага.

- А навошта вы накрываеце пірог мокрым рушніком? – Жуючы, запытаў Васіль.

- Для таго, каб скарынка была мяккая.

- Слухай, Алесь, а ты зараз вольны? – Запытаў Васіль.

- Так.

- Тады пайшлі пакажаш мне вёску. Правядзеш экскурсію жыхару з горада.

- Пайшлі.

Спачатку хлопцы наведалі цэнтр вёскі дзе знаходзілася царква і магазін.

- Царква наша будавалася яшчэ ў канцы 17 стагоддзя, – загаварыў Аляксей. - Лічыцца адной з самых старых і прыгожых у блізлеглых вёсках.

Васіль зрабіў фотаздымак і яны пайшлі далей. Паветра было спёртае. Дыхаць было цяжка.

- Заўтра дождж буде. – Сказаў Алесь.

- З чаго Вы ўзялі? – З цікавасцю запытаў Васіль. - Дзед сёння таксама нешта такое казаў.

- А у нас кажуць “Ілля – наробыў гнылля”.

- А што гэта значыць?

- Звычайна на “Іллю” ідзе дождж, таму сена патрэбна ўбіраць да гэтага свята, бо пасля яго -- сена можа не высахнуць, згніе.

Не заўважылі хлопцы як дайшлі да дзіўнага каменю.

- А што гэта за крыж такі? – Запытаў Васіль.

- Некалі даўно на гэтым месцы было балота. Толькі няшырокая грэбля злучала дзве зямлі. Нашу і зямлю суседскай вёскі. Аднойчы на гэтай грэблі сустрэліся два вяселлі, а па прымеце нельга было камусьці саступаць дарогу, таму коні з павозкамі і паехалі насустрач одна аднаму. Вазы з маладымі і гасцямі перакуліліся і пачалі ісці на дно балота. З таго часу і пачаў гэты крыж расці. А гісторыкі гавораць, што гэта язычніцкі ідал.

Яшчэ крыху пастаялі, зрабілі фотаздымкі і пайшлі дадому.

Па дарорзе Васіль зрабіў шмат цікавых і прыгожых фотаздымкаў. Будзе што ўгорадзе ўспомніць.

Калі Васіль прыйшоў дадому дзеда не было. Ён адчыніў акно і вырашый крыху падрамаць... Прачнуўся ад галасоў. Паглядзеў у акно і пабачыў, што каля іхняга плота стаяць тры жанчыны, сярод іх была яго бабуля, суседка, з якой яна па чарніцы ездзіла, і нейкая яшчэ жанчына.

- Ды наіграна ўсё у іх. Ім зарання ўсё гавораць. – Казала суседка. – Няма такіх людей на свеце.

- А ты успомні бабку Наталку. Яна не толькі лекавала, але магла і прывараджыць. – Адказала невядомая Васілю жанчына.

- Ага. Ты паглядзі як зараз Галя з Матвеем добра жывуць, – сказала бабуля Васіля. – А прыгадай пра дуб. Былі ж ведзьмы.

На веласіпедзе пад’ехала паштарка. Аддаўшы гаспадыням пошту, запытала пра што яны размаўляюць. Жанчыны расказалі.

- Ды ж заўтра такое свята, а вы пра ведзьм. А ці не чулі вы што ў чора нарабілася?

- Не. – У адзін голас адказалі жанчыны.

- Пайшла ўчора па ягады. Збіраю сабе ціхенька. Чую нехта крычыць: “Забілі, забілі”. Прыглядзелася добра – дык гэта ж бабка Фядося. Падбегла да мяне і гаворыць: “Людка, забілі. Згвалтавалі і забілі. Ды яшчэ і закапалі.”. Я стаю нічога не разумею. Кажу: “Раскажыце толкам што здарылася”. Фядося бярэ мяне за руку і кудысьці вяде і разказвае: “Пад’ехала вялікая машына. Дзеўка там і

хлопцы. Уключылі музыку. Пастаялі крыху і паехала. Я падыходжу, а там ужо яе і закапалі”. Падвяла мяне бабка да таго месца. Гляджу – свежая зямля, бугарок невялікі. Я адразу ж тэлефаную сваяму Міхалку і расказваю ўсе словы Фядосі і кажу каб пад’ехаў. Праз некалькі хвілін прыязжае ён з суседам. Падыходзіць. Глядзіць. І як засмяецца. Мне аж страшна стала. Ён пачаў расказваць: “Учора, памагаў Міхалу яго сабаку закопваць. Здох ён. Шкада, добры быў”. Мы таксама пачалі смяцца. Не заўважылі нават што бабка Фядося знікла. Толькі чулі як па лесе галінкі трашчалі.

- І што, праўда здох сабака? – запытала у паштаркі суседка.

- Ну. Шкада. Ён жа так добра кароў пас, а авечак як. Ой шкада-шкада. – Адказала паштарка Люда.

- Не былаб то бабка Фядося. Доўгі ж язык у яе. – Сказала жанчына.

- Усё. Трэба мне ісці. – Сказала бабуля Маша. – Хутка цялушка прыдзе.

- Ды і я яшчэ не ўсю пошту развезла. – Сказала Люда сядаючы на ровер.

Жанчыны развіталіся і кожная пайшла па сваіх справах.

Васіна бабуля зайшла ў хату. Паставіла кош на пол.

- Васілёк, збегай да каліткі, там стаіць кош з грыбамі. Прынясі яго сюды.

Васіль хутка выбег да каліткі і падняў кош. Ён быў цяжкаваты. Грыбы розныя. А які пах адыходзіў ад іх. Васілю нават на імгненне паказалася што ён зараз у леся, сярод мільёну розных грыбоў стаіць.

- Бабуль, а што там за дуб такі, і ведзьмы нейкія? – Запытаў Васіль пераступаючы парог.

- Не ведзьмы, а ведзьма, – сказала бабка здымаючы з каша з чарніцамі хусцінку.

- Раскажы мне, – з цікавасцю папрасіў унук.

- Ну слухай. Даўно гэта было, яшчэ ў царскія часы. Летам здарылася гэта, у далёкай Сібіры. Рэкрут з суседняй вёскі, разам з яшчэ некалькімі служывымі вяртаючыся з паходу страшэнна захацелі піць. Добра, што недалёка была нейкая вёска.. І разыйшліся яны у розныя хаты. Чаквін зайшоў у адну з хат. Яго сустрэла маладая жанчына. Мела яна незвычайны выгляд: стройная фігура, чорныя вочы і такіяж чорныя валасы. А твар быў белы. Хата была абвешана рознымі высушанымі травамі, а абраза небыло. Жанчына дала хлопцу вады, і пачала распытваць адкуль ён, дзе жыве. Чаквін ркасказаў адкуль ён. Жанчына усміхнулася і сказала: “Была я у той вёсцы. Гуляла на сваім вяселлі”. Хлопца гэта здзівіла. Жанчына дабавіла: ”У

вёсцы дуб з зламанай вяршыняй расце, дык гэта я яго ненарокам зламала. Абцасам сваёй туфелькі, калі весялілася з сяброўкамі”. Жанчына засмяялася, аж сцены пачалі трасціся. Чаквін спалохаўся і выбег з дому. Калі вярнуўся да сваіх служыўцам нічога ім не расказваў. А вярнуўшыся дамоў, знайшоў той дуб і быў здзіўленны. На самой справе палова вялізнага дуба была зламана.

Бабуля узяла кашы і панесла іх у камору.

- А ты Васілька, не сядзі дома, ідзі пагуляй.

- Не, я спачатку табе дапамагу.

Яны выйшлі ў двор і пайшлі ў сторану хлява. Васіль дапамог бабулі ўправіца: падаваў травы Машцы і цялушцы, насыпаў зерня курам.

- Добры дзень баба Маша, – павітаўся Алесь.

- Ды не дзень, а вечар.

- Васіль пойдзем да канала. Там зараз так прыгожа, фотаздымкі добрыя атрымаюцца.

- Ды канешне ж ідзіце, – сказала бабка Маша. – Духата спала, можна і пагуляць.

Васіль забег да хаты, узяў фотаапарат і яны разам з Алесем пайшлі ў бок канавы. Па дарозе сустрэлі статак кароў, якіх пастух гнаў з пашы дамоў.

- Як паслося? – Запытаў Алесь у юнака-пастуха.

- Добра, алеж такая спёка, вось зараз пасвіць – самае тое.

Хлопцы рушылі далей. Паветра і на самой справе стала “лёгкім”. Дыхалася свабодна. Сонца павольна садзілася за лес. Цёмны, пладавіты на ягады і грыбы ў гэтым годзе, лес.

- Мая бабуля сёння ў нейкую казню ездзіла па ягады. Дзе гэта? – Запытаў Васіль.

- Бачыш куды сонца садзіцца. Вось той лес і называюць казнёй. – Адказаў Алесь.

Хлопцы падыйшлі да канала. Нязграбныя ваданожкі каталіся па паверхні вады ў канале.

Сонца памяркоўна апускалася за лес. Неба залівалася розава-жоута-чырвоным колерам. Аблокі пачалі ружавець і Васіль падумаў: “У горадзе такога няма”.

Прайшло некалькі хвілін і сонца зусім схавалася за лес, і толькі дзівосны колер неба адлюстроўваўся у вадзе.

Завяршаўся яшчэ адзін працоўны, цяжкі, вясковы дзень…

**Аліна ФІЛЮЦІЧ, 17 год, гімназія г.Ганцавічы**

## Споведзь

З малых год мяне, дапытлівую дзяўчынку-гарэзу, захапляла, уражвала і цікавіла ўсё, што існавала вакол мяне. Я не баялася зімовага холаду, каб вылепіць снегавічок, бегала босенькай па цёплых летніх лужынах, даганяла яркіх матылькоў, загарала пад пяшчотным казытлівым сонейкам, з задавальненнем плюхалася ў рачной вадзе, гучна крычала і радавалася любому знойдзенаму грыбку ў лесе, падала ніцма на мяккі мурог і дыхала водарам зямлі і травы, заглядвалася на казачныя абрысы воблакаў у небе, заплюшчвала ад асалоды вочкі, калі ела чырванабокія духмяныя яблыкі з бабулінага саду, магла бясконца сачыць за стараннымі мурашамі, прыходзіла ў захапленне ад знойдзенага ў траве птушынага гняздзечка...

Я падрасла, захапілася чытаннем літаратурных твораў, і вось ужо хутка закончу гімназію. А да ўсяго навакольнага стала адносіцца з разумением, шукала вытлумачэння розных з'яў і падзей, асэнсавала: усё тое, што ёсць у прыродзе, без чаго я ўжо не ўяўляю сябе, мае пэўнае прызначэнне на Зямлі.

Здавалася б, я сама па сабе магла палюбіць родную прыроду, родны край, але, бясспрэчна, толькі дзякуючы паэтычным творам і иастаўнікам не проста навучылася любавацца казачнай прыгажосцю родных мясцін, але і цаніць дабрыню і душэўнасць ва ўзаемаадносінах з роднымі і сябрамі, навучылася бачыць у паводзінах людзей прыгажосць учынкаў.

А край мой сапраўды песенны, паэтычны, слаўны майстэрствам таленавітых землякоў. Нельга без эмоцый чытаць вершы Міхася Рудкоўскага, Віктара Гардзея, Івана Кірэйчыка, Алеся Каско, Уладзіміра Марука і творы многіх іншых землякоў, ад якіх і асалоду атрымаеш, і веды новыя здабудзеш.

Часта думала: як становяцца паэтамі? Якімі былі ў дзяцінстве сённяшнія паэты, як вучыліся?

Неяк вясною настаўніца беларускай мовы паведаміла, што ў гімназіі адбудзецца сустрэча-вечарына, на якую запрошаны сестры і пляменніца Міхася Рудкоўскага, параіла да гэтай сустрэчы яшчэ раз пачытаць яго вершы.

Ніколі час для мяне так хутка не бег. Празвінеў першы званок, другі, трэці, а я ўсё слухала б і слухала...

Старэйшая сястра Лідзія Міхайлаўна расказвала, як маленькі Міхась любіў бегаць вакол іхняй вялікай новай хаты і ўсё заглядваўся

на неба, а потым паведаміў маме, якая даіла карову: "Мама, а над нашай хатай два месячыкі свецяць..." Якім ён рос клапатлівым, пацвярджае такі эпізод з жыцця:

- Неяк летам пагнаў Міхась коней пасвіць, - расказвае Лідзія Міхайлаўна. - Унас яшчэ тады быў малады жарэбчык. І тут раптам наляцела бура. Вецер быў страшэнны, ліў дождж, пасыпаў град. Такога граду больш не памятаю зроду: з курынае яйка і большы. Мама плакала, перажывала за Міхася, як ён там у полі. Навальніца прайшла, і мы кінуліся ў поле да Міхася. Дык ён , аказваецца, пра сябе і не думаў, зняў з плячэй стары пінжачок і накрыў ім коніка, а потым плакаў ад таго, што таму моцна балела..."

Ірына Міхайлаўна, малодшая сястра, не без хвалявання ўспамінала, як на іх выхаванне ў сям'і станоўча ўплываў брат. 'Тэта ён нас навучыў любіць кнігу, літаратуру, прывучыў шмат чытаць, гаварыла яна. - Ды і як можна было не чытаць, калі ў хаце заўсёды было шмат газет і кніг?"

Пляменніца Ала ўспамінала, як моцна любіла і паважала дзядзьку і як моцна была ўстрывожана маміным плачам, калі тая галасіла: "...У якое ж свелае свята ты нас пакінуў, брацік! Ты ж гэты дзень так любіў!.."

Так, на Купалле перастала біцца сэрца вялікага чалавека, нашага земляка, які сам любіў людзей, родны край і вучыў гэтаму сваіх чытачоў:

*Калі ў вочы мне глядзяць*
*Калека-лес,*
*Рака-калека, -*
*Мне вочы хочацца схаваць*
*Ад сораму, што чалавек я.*

Як хацела б я, каб на ўсёй Зямлі быў вечны мір і спакой, каб людзі чыталі вершы нашага паэта-земляка Міхася Рудкоўскага, любілі свой родны край, шанавалі даўнюю і новую гісторыю Радзімы і духоўныя набыткі землякоў:

*Там вецер гайдае аблокі-арэлі,*
*І кружаць буслы, залацяцца фарэлі, -*
*Плывуць, як жар-птушкі, над пушчай заранкі,*
*Цені бягуць ад лясоў партызанскіх, -*
*І глуха, глыбінна ўздыхаюць курганы,*
*І коні былінна храпуць у тумане.*

**Кацярына Татарыновіч, 16 год, гімназія г.Ганцавічы**

## Лясам Ганцаўшчыны

Прыгожая, зялёная, лясістая.
Чароўная, гасцінная зямля,
Балотамі і рэчкай апавітая
Ты, Ганцаўшчына любая мая.
Нас лес гадуе, корміць змалку дзён.
Ён і сусед нам, і скарбонка лекаў.
Ляснога харчу, кветак, зёлак ён
Ніколі не шкадуе чалавеку.

Ля Борак лес стары і маладняк,
Вавёркі ў лесе тым грызуць арэшкі.
Каля Хатыніч жа ў пасадках так
Гараць рыжкі, ірдзеюць сыраежкі!
За Сукачом яшчэ й цяпер дрымучы лес
Частуе ўсіх чарніцамі, брусніцамі.
Ёсць сосны і бярозы да нябёс,
Прыемна пахне багуном, дурніцамі.

Да Вострава вядзе зялёны шлях.
Тут асаблівы гонар лесу даны:
Паэт вялікі, любы наш пясняр
Міхась Рудкоўскі спачывае з землякамі.
Праславіў родны край, які любіў,
І навучыў усіх такой любові.
І ціха лес ля могілкавага краю
Паэту шэпча: "Вечнага спакою".

Стары магутны лес, яловы і багаты,
У ваколіцах Раздзялавіч ляжыць.
Там кожны пень і ствол грыбамі барадаты,
І людзям добра там, прывольна жыць.
Жыві, наш лес, аберагай зямлю,
Звіні птушыным гоманам вясною.
Квітней, наш добры сябар, і прашу:
Мацуй ты нашы душы дабрынёю.

**Анастасія ПАЎЛОЎСКАЯ, 17 год, гімназія г. Ганцавічы**

## Ёсць такі куток у Беларусі…

Беларусь – сінявокая, белакрылая, ільняная краіна ў абрамленні зялёных лугоў і імшыстых балот… І хаця яна знаходзіцца паміж двума кантынентамі, у самым цэнтры Еўропы, у ёй захаваліся куткі некранутай прыроды, маленькія, але гасцінныя гарады, дзе вас заўсёды з прыветлівай усмешкай сустрэнуць мясцовыя жыхары. Адным з такіх куточкаў з'яўляецца чысты і ўтульны палескі гарадок Ганцавічы. З'явіўся на карце Беларусі ён у сувязі з будаўніцтвам чыгункі Баранавічы – Лунінец, якая распачалася ў 1884 годзе. Гэта адбылося ў 1898 г., як сведчыць надпіс на камені, закладзеным падчас заснавання горада. Такім чынам, сёння маім Ганцавічам 113 гадоў. Нягледзячы на такі параўнальна малады ўзрост, Ганцавічы вядомыя людской працай і талентамі, сваёй прыродай, культурнымі помнікамі, багатымі нацыянальнымі звычаямі і традыцыямі.

«Ваша Люсинская школа была моим первым учительским местом, с которого началась вся моя дорога в жизнь…» Так пісаў Якуб Колас жыхарам в. Люсіна ў 1948 г. Менавіта ў гэтай вёсцы знакаміты беларускі песняр працаваў настаўнікам у 1902-1903 гг. У аповесці «У палескай глушы», якая з'яўляецца 1-й кнігай трылогіі «На ростанях», Я. Колас дакладна апісаў вёску Люсіна (у трылогіі яна гучыць як в. Цельшына) і школу. А жыхары мясцовых вёсак сталі прататыпамі наступных твораў пісьменніка. Зараз у в. Люсіна існуе музей Якуба Коласа.

На тэрыторыі раёна пад аховай дзяржавы знаходзяцца больш за 100 курганоў-магільнікаў X-XI стагоддзяў. А першыя вёскі (Чудзін, Будча) з'явіліся яшчэ ў XV-XVI стст. Мы ганарымся ўсім тым, што пакінулі нам нашы нашчадкі.

А яшчэ Ганцавічы сталі вядомыя і праз тыя паэтычныя творы, якія напісалі нашы землякі-паэты: М. Рудкоўскі, В. Гардзей, В. Праскураў, А. Каско і многія іншыя.

Дзякуючы шырокапашыраным рамёствам у горадзе створаны Дом рамёстваў, у якім штомесяц ладзяцца выставы самабытных мясцовых творчых набыткаў нашых майстраў і майстрых.

Першастваранае прырода Ганцаўшчыны прываблівае замежных турыстаў, аматараў палявання і рыбалоўства. Турысты з Германіі, Францыі, Польшчы дзівяцца прыгажосці спрадвечных лясоў і балот, расказваюць дома пра далёкую краіну Беларусь. І хочацца сказаць сваім землякам-беларусам: «Прыязджайце да нас на Ганцаўшчыну,

падыхайце водарам жывіцы, паспытайце суніц, чарніц, брусніц і журавін, назбірайце баравікоў, лісічак і маслякоў, пасядзіце з вудачкай на берагах азёраў і мясцовай рачулкі Цны, пабывайце на вадасховішчы ў Лактышах і палюбуйцеся срэбранымі карпамі».

Многія кажуць, што лепш жыць у вялікім горадзе, чым у маленькім. Але я шчыра радуюся, што нарадзілася і жыву ў Ганцавічах. Тут я сказала першае ў сваім жыцці слова, зрабіла першы крок, з вялікім букетам кветак пайшла ў першы клас, упрыгожыла сваю бальную сукенку чырвонай стужкай з надпісам "Выпускнік"...Усё маё жыццё прайшло ў гэтым куточку вялікай "зямлі пад белымі крыламі". І, нават, калі я апынуся далёка ад Радзімы, то ў думках заўсёды буду вяртацца ў свае родныя Ганцавічы.

**Аляксей ТАБОЛІЧ, 15 год, школа №8 імя Героя Беларусі Уладзіміра Карвата г.Брэста**

## Мой край

Звіняць у небе жаўрукі,
Шуміць бярозак гай,
Цвітуць у полі васількі –
І гэта ўсё мой край.

Па пушчы ходзяць векавой
Магутныя зубры,
А на палянах паміж хвой
Сунічкі знойдзем мы.

Няма старонкі прыгажэй
За Беларусь маю.
Для сэрца даражэй
Краіны не знайду!

## Бацькаўшчыне

Родная зямля…
Гэта там, дзе спявае крыніца,
Дзе ў вышыні смяецца жаўрук,
Дзе ў звонкіх барах залаціцца жывіца,
І няспынна жыцця ідзе рух.

## Дзівасloў

Казка

Было гэта даўным-даўно. У краі з тысячамі рэк ды бяскрайнімі зялёнымі лясамі ў адным паселішчы нарадзіўся хлопчык. Як толькі з'явіўся ён на гэты свет, дык так голасна і звонка закрычаў, што бабка-павітуха сказала: "Звінізвон нарадзіўся". Так і сталі называць галасістага хлопчыка.

Рос Звінізвон цікаўным і вельмі кемлівым. А як гаварыць навучыўся, дык бесперапынна стаў задаваць пытанні: "А што гэта такое?", "А гэта як называецца?", "А што значыць гэтае слова?" І такі ён быў дапытлівы, што праз нейкі час пра ўсе словы, якія ведалі ў яго

паселішчы, дазнаўся. “Мама, скажы мне якое-небудзь новае слова”, - прасіў Звінізвон. “Не магу, сыночак, ты ўжо ўсе словы ведаеш”,- адказвала маці. “Тата, можа ты якое-небудзь новае слова скажаш?”- не сунімаўся хлопец. “Не ведаю, таму і не скажу”,- адказваў бацька.

Засумаваў Звінізвон без новых слоў. Вырашыў ён пайсці да самага старога дзеда, бо стары, напэўна, самы разумнейшы, больш за іншых ведае.

Выслухаў Звінізвона дзед ды кажа:

- У нас ты новых слоў не знойдзеш, але ў свеце яны ёсць. Пашукай, потым і нам раскажаш.

І адправіўся Звінізвон у падарожжа. Каб не забыць словы новыя, узяў бяросту, сажу ды палачку драўляную. Запішу, думаў ён, новыя словы, сабяру іх ды ўсім людзям раскажу.

Падарожнічаў Звінізвон доўга. Якіх толькі людзей не бачыў, якіх толькі слоў не чуў! Занатоўваў усё на бяросце. Быў вельмі шчаслівы, бо кожнае новае слова прыносіла яму радасць. Некаторыя знаёмыя словы ў іншай мясцовасці мелі іншае значэнне, чым у яго родным паселішчы. Іх таксама Звінізвон запісваў. Вось, напрыклад, калі яму балела горла, маці казала:”Абвіні шыю хусткаю”. Звінізвон ведаў, што гэта значыць “абкруці”. А вось неяк трапіў ён у мясцовасць, дзе ўсюды сады былі, ды пачуў: “Нашу вёску абвінулі сады ябланевыя, а суседнюю – вішнёвыя”. Дапытаўся, што “абвінулі” значыць тут “абкружылі, абступілі”.

Там, адкуль быў родам Звінізвон, неабсяжную прастору называлі абшар. У іншых жа месцах абшарам называлі і вялікі ўчастак зямлі. Пры хаце яго бацькоў была клець, дзе захоўваліся розныя рэчы. А ў адным паселішчы Звінізвону паказалі прыстасаванне, у якім можна было падняць што-небудзь угару. Яго называлі таксама клець.

Аднаго разу Звінізвон дужа здзівіўся, калі адна жанчына сказала: “Трэба на галаву намітку надзець чыстую”. Хлопец ведаў, што наміткамі маці называла доўгія вузкія кускі кужэльнага палатна, але ніколі яна іх на галаву не надзявала. Аказалася, што ў тым далёкім ад бацькоўскай хаты паселішчы, куды прыйшоў у сваіх пошуках Звінізвон, наміткамі называлі галаўныя ўборы замужніх жанчын, зробленыя ў выглядзе хусткі з такога ж палатна.

Вось так і ішоў па свеце Звінізвон, старанна збіраў ён новыя словы і новыя значэнні ўжо знаёмых слоў. На бяросце з’яўляліся новыя радкі.

Ягдташ – паляўнічая торба для дзічыны.

Эківок – выкрутас, двухсэнсоўны намёк.

Мата – посцілка на падлогу або пляцёнка на вокны, дзверы з саломы, чароту ці травы.

Завоз – чарга ў млыне.

Брук – вымашчаныя каменнем дарога ці вуліца.

Літасць – спагадлівыя, велікадушныя адносіны.

Рыззё – тое ж, што лахманы.

Туга – смутак, журба…

Калі Звінізвон вярнуўся ў сваё паселішча, дык прынёс вялікі стос кавалкаў бяросты, запісаных мноствам слоў. Цяпер не ён ішоў шукаць новыя словы, а да яго ішлі па іх. Звінізвон стаў і дзяцей вучыць, каб ведалі якія словы ў свеце жывуць. А бяросту ён сшыў у “Дзіваслоў”. Так з’явіўся першы тлумачальны слоўнік. Вельмі карысная рэч і па сённяшні дзень.

Каб цябе правільна зразумелі, трэба ведаць не толькі слова, але і яго значэнне. І ў кожнага з нас ёсць цяпер магчымасць, як некалі Звінізвон, шукаць новыя словы, адкрываць іх нанова.

**Ганна Шэндзер, 13 год, Опальская СШ (Іванаўскі раён)**

**Што такое Беларусь?**

Што такое Беларусь?
Гэта рэчка, поле, луг.
Гэта ціхі шэпт бяроз,
Травы ў пацерках ад рос.
Гэта сонечны прамень
І крынічанькі струмень.
Гэта ўсе мае сябры,
Гэта песні да зары,
Гэта сінь і шыр нябёс.
Гэта наш з табою лёс.

**Юлія Хоміч, 14 год, 17 год, СШ №37 г.Брэста**

**Дарогамі Радзімы**

Як лёгка дыхаць… Як проста быць… бо гэта мой кут, мая краіна, мая Радзіма…

Удыхні павольна ў сябе паветра. Хай яно распірае твае грудзі аж да ціхага болю. Не задумвайся, навошта. Удыхні вецер, і ён раскрые табе тую мудрасць, якую знайшоў, ходзячы па невядомых старонках, удыхне тое, што зразумеў у сваім блуканні. Яго шлях скончаны, ён вярнуўся туды, адкуль пачынаў адзін адзіны ўдых.

А твой шлях толькі пачынаецца. Тут, у тваіх родных мясцінах. Там, дзе ты нарадзіўся і вырас, дзе першы раз спатыкнуўся і падняўся. На зямлі светлай і роднай. Які будзе твой выбар, твой адзіны шлях?

Для цябе тут усё звыкла. Але ты задумайся, якая прыгожая твая родная краіна Беларусь. Устань за гадзіну да ўзыходу сонца, і ты ўбачыш, як цёмнае неба, не спяшаючыся, святлее; як прачынаюцца птушкі з кожным няўпэўненым прамянём сонца; як знікае месяц і з'яўляецца распалены дыск… Быццам мяккі мазок пэндзля няўмелага мастака, разліваецца ён па наваколлі. Спачатку празрыстым туманом кладзецца на неба, потым запаўняе ўсю зямлю святлом, падымаецца ўсё вышэй і вышэй. Вось і трава высахла ад расы. Вуліцы пачалі ажываць. Але не толькі людзі прачнуліся. Ганарліва паднялі свае вершаліны хвоі. Выпрасталі лісце беластволыя бярозкі, павітаўшы сонца ціхім шолахам. Заспяшаліся лясныя жыхары. Раскрылі свае пялёсткі санлівыя кветкі. І зазвінеў малады ручай, збягаючы з узгоркаў. Свежасцю ўварваўся ён у поле і зліўся з невядомым возерам. А дзе пачынаў ён свой шлях? Далёка за лесам, у лагчыне ўзгоркаў, дзе даў яму жыццё лівень з начных хмар.

І ў цябе ёсць свой шлях, свая мара і мэта ў жыцці. Ты шануеш яе і хочаш дасягнуць жаданага. Ідзі ж смялей! І ўсюды, дзе б ты ні быў, нясі з сабою пясчынку свайго кутка, гонар за Радзіму. Захавай родную мову, бо яна ў цябе адна. Любі сваю родную зямлю, якую падарылі табе твае продкі.

**Максім Галадко, 14 год, СШ №6 г.Брэста**

**Пахне суніцамі спелымі…**

Радзіма – гэта лес, які моцна пахне суніцамі і хвояй. Паветра тут асаблівае. Ветрык прынёс водар гэтых прыемных ягад. Дыхаеш, і немагчыма надыхацца. Спускаешся з пагорка і апынаешся на поплаве, усеяным суніцамі. Сярод зялёных лісточкаў бялеюць пяшчотныя кветачкі. А там, дзе свеціць сонейка, можна збіраць ураджай.

А ведаеце, як гаворыць мая мама? Калі адну ягадку бярэш, на другую глядзіш, трэцюю заўважаеш, то чацвёртая ўжо мроіцца. І на самой справе, ягадка надта пераборлівая, капрызная. Нагінайся ды нагінайся. Дзеля таго, каб назбіраць гэтай душыстай ягадкі вядзёрка, трэба папрацаваць. Хаваецца яна пад лісточкамі, хіліць сваю галоўку да зямлі.

А вось і змяркание нечакана настала, ягадкі схаваліся. Ды мы з матуляй паспелі набраць суніц. Хораша ў лесе, калі яны паспеюць!

Пазнаёміўшыся з жыццём і творчасцю Міхася Рудкоўскага, я зразумеў, што суніцы для пісьменніка – своеасаблівы сімвал жыцця і натхнення.

Калі Міхась Рудкоўскі працаваў настаўнікам, ён вельмі часта прыязджаў дадому. Лета. Водпуск. У Міхася з Алай любоў. Аднойчы Міша, прыгнаўшы з пашы статак кароў, прынёс дадому букецік суніц. Так-так, менавіта букецік. Відаць, раслі ў траве, бо ягадкі з кветкамі былі на высокіх “ножках”.

Проста кахання сапраўднага паміж імі, відаць, не было. Яны рассталіся. Не памаглі і суніцы. Пра гэта я даведаўся з успамінаў яго сястры.

**Эдвард Максімовіч, 18 год, студэнт 3 курса Брэсцкага музычнага калледжа імя Р. Шырмы**

## Я кажу горда, што я – беларус

Беларусь – гэта я, таму што нарадзіўся ў самым заходнім горадзе сваёй краіны. Брэст – гэта цэнтр Еўропы. І хоць мы кажам, што жывем на мяжы, але мяжа гэтая не дзеліць, а аб'ядноўвае ўсіх людзей добрай волі. У гарадоў, як у людзей, свае лёсы: шчаслівыя, маркотныя, звычайныя. Гісторыя майго Брэста змясціла ў сабе ўсе гэтыя азначэнні.

У 13-м стагоддзі падчас палітычнага і гаспадарчага аб'яднання насельніцтва на тэрыторыі Беларусі былі закладзены асновы беларускай народнасці. Пры вялікім князі Гедыміне вялікая частка беларускіх земляў увайшла ў склад Вялікага княства літоўскага, прычым, пераважна на добраахвотна-дамоўнай аснове.

Калі я бываю за мяжой, я заўсёды з цікавасцю назіраю за тым, што ведаюць пра нас, беларусаў , замежнікі. Праўда, я быў пакуль толькі ў Варшаве, Вільнюсе, Будапешце, Рыме і Вене. Палякі і літоўцы, як мы пераканаліся, адыгралі значную ролю ў фармаванні этнічнага складу насельніцтва Беларусі, а вось аўстрыйцы, асабліва вугорцы, чужыя. Значна прыемней кантактаваць з экспрэсіўнымі італьянцамі. Крыўдна, што больш яны ведаюць рускіх, а вось хто такія беларусы – мала хто ведае. У Фларэнцыі і Венецыі я не здымаў з плячэй свой шалік з выявай нашай краіны. Але ніхто не звяртаў увагу. І я задумаўся: а як з'явілася сама назва "Беларусь"?

**Караліна Карнялюк, 17 год, юнкор клуба юных маракоў г.Брэста, 11 клас гімназіі №5 г.Брэста**

## Вечная памяць душы

Памятую як цяпер… Нібы дакладны вартавы, атачаў сядзібу Нямцэвічаў парк. Галінастыя, амаль чорныя дрэвы схіліліся да прамых пясчаных дарожак і нагадваюць цёмныя алеі, нават тунэлі.

Парк не наводзіў жах, наадварот, заахвочваў да самых светлых думак. Здавалася, быццам за кронамі старых дрэў хаваліся героі дзіцячых кніжак, якія ахоўвалі лес ад небяспекі.

У парку гэтым разам было ціха… Чуліся толькі крокі. Мае – дзіцячыя, няўпэўненыя і таропкія. Крокі сямігадовай дзяўчынкі з маленькімі гарэзлівымі касічкамі і чорнымі вяснушкамі. І ціхая хада дзядулі – упэўненая і павольная, але ўжо з прыдыханнем. Ён з характэрным толькі для яго спакоем разглядаў кожны кусцік, кветачку, травінку. А пасля, акуратна абапіраючыся на кій, садзіўся на высокі корань любімага дрэва ў канцы алеі. Я з дзіцячай непасрэднасцю садзілася побач і нецярпліва чакала пачатку новых апавяданняў.

Кожная дзядулева гісторыя была напоўнена любоўю да гэтай мясціны, дзе гісторыя, пераступаючы праз стагоддзі, жыве ў сэрцах людзей, дзе памяць пра далёкую мінуўшчыну прасякнута павагай і гонарам. Дзіцячае ўражанне, пакінутае дзядулевымі апавяданнямі, на ўсё жыццё адклалася ў маёй памяці. Магчыма, гэта былі ўсяго толькі легенды, казкі, але здавалася, што мой старэйшы суразмоўца сам быў відавочцам тых далёкіх падзей.

Пакуль дзядуля казаў, задуменна абапіраючыся на кій, мой пагляд быў скіраваны на стары і самотны белакаменны будынак, які ўзвышаўся над паркам на невялікім узгорку. Колькі памятаю, дом заўсёды здаваўся мне трохі змрочным і не зусім зразумелым. Напэўна, уся справа была ў чорных вялікіх вокнах, у якіх ніколі не запальвалася святло, у белых сценах з аблупленай фарбай і вялікім конусападобным дахам, на якім заўсёды збіралася зграйка крумкачоў. А ў параўнанні з новымі сучаснымі будынкамі, якія атачалі яго, наогул нагадвала самотнага кінутага на волю лёсу старога, што ціха дажывае свае дні.

Але тады, седзячы каля дрэва побач з дзядулем і слухаючы яго чарговую гісторыю, дом мне ўжо не ўяўляўся непрыемным. Мне здавалася, ён ператвараецца ў прыгожы і дагледжаны палац багатага і знатнага шляхціча. У ім зноў ярка гарыць святло з мноствам свечак і

гучыць ціхая мелодыя вядомага кампазітара. Маё ўяўленне малявала, як да панскага дома прыбывае усё больш фаэтонаў, запрэжаных станістымі рысакамі. І вось як раз гэтыя невядомыя людзі ўяўляліся мне мастакамі і пісьменнікамі.

Памятую як цяпер… Злавіўшы мой уважлівы пагляд, дзядуля цёпла ўсміхнуўся, разумеючы, што я нарэшце спазнаю гісторыю роднай зямлі, пачынаю паважаць і шанаваць мінулае.

…Апошняя паездка ў Мінск прымусіла мяне ўспомніць сямігадовую дзяўчынку. Я і не падазравала, што сваё, роднае мінулае, якое зусім побач, можа забыцца з гадамі. І вось у адным з музеяў мне ўсё нагадала дзяцінства: сярэбраныя лыжкі і кубкі, дах сядзібы, прыгожая белая вопратка на экспанатах, сцены, маленькі сад каля музея, мой дарагі, чароўны лес…

Па вяртанні дадому я даведалася, што ж захоўваюць сцены сядзібы Нямцэвічаў. Хлопчык, пра якога распавядаў мне дзядуля, і праўда жыў у доме на пагорку. Нарадзіўся ён у далёкім 1758 годзе ў вёсцы Скокі, што ў пяці кіламетрах на поўнач ад Брэста. Яго назвалі Юльян Урсын Нямцэвіч. Гісторык, паэт, публіцыст, палымяны палітык, асабіста знаёмы з Томасам Джэферсанам, Джорджам Вашынгтонам, Тадэвушам Касцюшкам, Жорж Санд і Віктарам Гюго… Калісьці Адам Міцкевіч сцвярджаў, што творчасць Юльяна Нямцэвіча была "прыладай барацьбы". З гэтымі словамі складана не пагадзіцца, бо ўсё сваё доўгае жыццё паэт змагаўся за вызваленчую барацьбу супраць самаўладства. Заклікаў да вызвалення сялян ад прыгону ў камедыі "Вяртанне амбасадара" 1790 года. Пісаў сатырычныя творы аб феадальных парадках,

упарта дамагаючыся збавення ад іх.

Праз шмат гадоў, седзячы на тым самым месцы, дзе я ўпершыню пазнаёмілася з гісторыяй, я глядзела на будынак, што ўзвышаўся над ціхім паркам. Здавалася, нічога не змянілася: тыя ж вароны, якія сядзяць на даху, тыя ж чорныя вокны і белыя старыя сцены. Але было нейкае цёплае пачуццё, якое, як у дзяцінстве, прымусіла глядзець на самотны дом здалёку. Азіраючы прыроду, вакол сябе, я зноў і зноў прыгадвала радкі з кніг пра Юльяна Нямцэвіча: удзельнічаў у паўстаннях 1830-31 гадах у Польшчы і Літве. Да самай сваёй смерці Нямцэвіч выступаў за развіццё асветы, правядзенне буржуазна-дэмакратычных рэформаў. Стварыў выдатныя раманы, байкі, аповесці, паэмы, трагедыі. Аўтар рамана "Ян з Тенчына", мемуараў "Дзённікі маіх часоў", паэтычнага цыклу "Гістарычныя песні". Кожнае дзіця, калі яно спазнае сябе, робячы гэта праз кнігі або гісторыі сваіх блізкіх, пастаянна аналізуе свае

паводзіны, вучыцца распазнаваць дабро і зло. Для мяне пазнанне сябе пачалося з апавяданняў дзядулі пра выдатнага героя таго часу. Кнігі і гісторыі дзядулі дапамаглі мне пазнаць і палюбіць сваё багатае мінулае, сябе ў хлопчыку Юльяне.

**Яўген БЕРТАШ, 12 год, Востраўскі дзіцячы сад-сярэдняя школа імя Міхася Рудкоўскага (Ганцавіцкі раён)**

**Любоў да Радзімы адчуваеш на адлегласці**

Мой родны кут, мая маленькая радзіма! З любоўю і пяшчотай я гавару табе словы ўдзячнасці за твой незабыўны воблік, які назаўсёды будзе жыць у памяці.

Я яшчэ малы, мне толькі 12 гадоў, але аднойчы ўжо адчуў сум па роднай вёсачцы. Нядаўна я бавіў час у гасцях, у нашым абласным цэнтры. Здаецца, толькі тры дні мяне не было дома, а вось калі вяртаўся, то шчымліва радавалася сэрца шумліваму лесу перад любай вёскай, родным палеткам. А калі зайшоў у родны двор, атрымаў такую асалоду ад сустрэчы з маленькай яблынькай, якую пасадзіў прошлай вясной у сваім садзе! Яблынька, здаецца, махала мне сваімі кволымі галінкамі і віталася, быццам казала: "Прыехаў, маленькі валацуга, а я цябе чакала, нават падрасла трошкі, каб парадаваць твае вока". І назаўтра раніцай мяне не пакінула пачуццё любові да роднага куточка. Сапраўды, каб адчуць, што табе радней, трэба ненадоўга пабыць у разлуцы. Праўду ж кажуць: "Любоў да Радзімы адчуваеш на адлегласці".

**Алена ТУРКО, 12 год, Востраўскі дзіцячы сад-сярэдняя школа імя Міхася Рудкоўскага (Ганцавіцкі раён)**

***

У бязмежным поля моры
Пахне свежая ралля,
І зялёныя прасторы
Рассцілае нам вясна.

За туманам над лугамі
Пратрубілі журавы.
Бусел доўгімі нагамі
Адмярае паплавы.

Ветрык цёплы за сабою
Хмаркі шэрыя прывёў.
Не змываецца дажджамі
Зелень яркая лугоў.

Будзіць сонца яркім светам
Дрэвы, рэкі, шыр палёў…
- То ж вясна прыйшла з прыветам,
З новым шчасцем і… жыццём.

**Надзея Шахрай, 16 год, Востраўскі дзіцячы сад-сярэдняя школа імя Міхася Рудкоўскага (Ганцавіцкі раён)**

**Песня лесу**

Мой родны лес!
Ты дыхаеш пяшчотай.
Праклалі кроны сцежкі да палёў.
Звініць чабор духмянаю спякотай,
Бразгочуць зверху крылцы матылькоў.

Галосіць угары старая хвоя,
Нібы цымбалы, шышкі ў верасах,
Пяюць чарніцы камарыным роем,
Ім пчолкі падпяваюць, як басы.

І недзе ціха цінькае сініца,
І салавей свой доўгі спеў пачаў.
Ківаюць ў такт галоўкамі суніцы
І гушкаюць igліцу на плячах.

Я рада, што мелодыя лясная
Яшчэ не раз паўторыцца ізноў.
І дрэвы апрануцца ў квецень мая,
І свет раслін пяройдзе на мажор.

**Дар'я Халецкая, 12 год, Востраўскі дзіцячы сад-сярэдняя школа імя Міхася Рудкоўскага (Ганцавіцкі раён)**

***

О, лес мой – светлы і крыштальны!
Мы пад шатром тваім стаім
З зялёнаю тваёю тайнай
І лёсам заўтрашнім тваім.

**Алеся Курс, 12 год, Агарэвіцкая СШ**

## Вёска

Не гучная хоць назва,
Хоць сціплае імя,
Ды самая любімая
Ты, вёсачка мая.

Раскінулася вольна
Сярод лясоў, лугоў.
Як стужкаю, абвітая
Хвалямі жытоў.

Тут вуліцы шырокія,
Прыгожыя дамы,
Тут людзі працавітыя
Спакон вякоў жылі.

Аралі поле, сеялі
І жалі з году ў год,
Бо працай хлебаробскаю
Слаўны наш народ.

**Кацярына Булыга, 11 год, Агарэвіцкая СШ**

## Матчына мова

Калі запытаюць часам у размове:
Якая яна, мая мова,
Тады адкажу ўсім з усмешкай,
Што для мяне няма лепшай.
Яна такая чыстая,
Як рэчачка бруістая.
Яна кожны дзень новая,
Як песня жаўруковая.
Кожнае слова - скарб цэлы,
З ім не сорамна ісці ў свет белы.
А яшчэ сваю мову за тое люблю я,
Што на ёй размаўляе мая матуля
З небам, з сонцам, з зямлёю.
І са мною.

**Алёна Булат, 17 год, Агарэвіцкая СШ**

**Мой лес**

Бягу я ў лес сцяжынкаю знаёмай,
Здаецца, сэрца вырвецца з грудзей.
Зялёны, шумны, мудры і багаты,
Ён з радасцю страчае нас, людзей.

Свае ён таямніцы раскрывае,
Руплівых пачастуе ад душы.
Развее сум, тугу і адзіноту,
Душою адпачнеш ў яго цішы.

Тут ёсць прытулак сэрцам закаханым,
Ёсць тут і для зажураных спачын,
Бо кожны для яго як госць жаданы,
Бо кожны для яго – найлепшы сын.

Там што ні дрэва – то свая гісторыя,
Там што ні куст – то песня салаўя.
Жыве мой лес, мой сябар самы верны,
Радзімы нашай гонар і краса.

**Карына Керус, 14 год, СШ №1 г.Ганцавічы**

## Ганцавічы

Сонца свет ліецца над зямлёю,
Хоча ён усё тут асвяціць...
Мы ганарымся горадам за тое,
Што ён жадае лепшым быць.

Маленькі, чысты і прыгожы,
Ён самы лепшы ў свеце кут.
Няхай усіх вабяць падарожжы –
Мне падабаецца вось тут!

І не патрэбен мне вялікі горад:
Я Ганцавічы ціхія люблю.
І самы лепшы, на мой погляд,
Той край, дзе я жыву.

**Вольга Качурка, 17 год, СШ №3 Ганцавічы**

## Зазірнулі ў скарбніцу нашай культуры

Як і многія нашы землякі, педагогі і вучні сярэдняй адукацыйнай школы №3 рыхтуюцца адзначыць свята, што адбудзецца на ганцавіцкай зямлі у верасні — Дзень беларускага пісьменства. Да гэтай падзеі было прымеркавана цікавае і запамінальнае мерапрыемства"Слова народа майго", падрыхтаванае бібліятэкарам В.Ю.Кашчанок, настаўніцай беларускай мовы і літаратуры Н.Р.Давыдчык і вучнямі дзясятых класаў. Падчас яго вучні здзейснілі завочнае літаратурнае падарожжа па ганцавіцкай зямлі. Іх спадарожнікамі ў незвычайнай вандроўцы сталі запрошаныя госці: дачка пісьменніка В.Ф.Праскурава настаўніца нашай школы Т.В.Плотка, пляменніца паэта Міхася Рудкоўскага А.У.Хваль, супрацоўніца цэнтральнай раеннай бібліятэкі Т.У.Маляўка.

Іх цёплыя ўспаміны дапамаглі нам уявіць нашых славутых землякоў не толькі як знакамітых пісьменнікаў, паэтаў, але і як звычайных людзей, што жылі побач, працавалі на рабоце, клапаціліся аб сваіх родных, аб дзецях, займаліся гаспадаркай, разам з сем'ямі адзначалі святы.

Рабяты дазналіся шмат цікавага аб дзейнасці этнографа і фальклvarыста А.К.Сержпутоўскага, класіка беларускай літаратуры Якуба Коласа, пачатак педагагічнай дзейнасці якога звязаны з вёскай Люсіна Ганцавіцкага раёна. Памяць пра працу маладога настаўніка Канстанціна Міцкевіча — будучага пісьменніка Я.Коласа — ушаноўваецца і беражліва захоўваецца ў школьным музеі вёскі Люсіна. Нам добра вядома, што ў сваей аповесці "У палескай глушы" класік распавядае пра гэтую вёску, якую называе Цельшына, а ў вобразе маладога настаўніка Лабановіча — сам пісьменнік.

Цікава было даведацца, што літаратурнае жыццё нашага краю цесным чынам звязана з імем В.Ф.Праскурава, які ў 1950 годзе прыехаў у Ганцавічы, працаваў рэдактарам раённай газеты "Сялянская праўда". Для творчай моладзі раёна ен стаў літаратурным настаўнікам, які па-бацькоўску клапатліва, патрабавальна і дабразычліва апякаў маладых аўтараў, дапамог ім знайсці свой шлях у літаратуры, журналістыцы.

Падчас літаратурнага падарожжа згадалі імя І.А.Кірэйчыка, які таксама працаваў у раёнцы.Мы чыталі яго вершы, успомнілі апавяданні, нарысы.Ён заўсёды помніў сваю малую радзіму, сяброў, калег, людзей, што далі яму пуцёўку у літаратуру: "Я схіляю галаву

перад той нашай "раёнкай" у Ганцавічах, якая дала нам крылы для паллету — Міхасю Рудкоўскаму, Віктару Гардзею, Алесю Каско, Уладзіміру Маруку..."

З захапленнем мы слухалі вершы М. Рудкоўскага.Яму, як выдатнаму майстру слова, былі падуладны паэтычныя творы розных жанраў. А крыніцай натхнення таленавітага лірыка з'яўлялася малая радзіма — мілы куточак Палесся.

З Ганцаўшчыны ўвайшоў у беларускую літаратуру пісьменнік і паэт В.К.Гардзей. Ва ўсіх сваіх творах ён выступае адданым сынам бацькаўшчыны, патрыётам палескай зямлі. Слухаючы вершы, я, як аматарка беларускай паэзіі, прыгадвала сваю першую сустрэчу з паэтам у дзіцячай бібліятэцы і незабыўныя ўражанні ад яе ў нас, чытачоў. Памятаю словы паэта аб роднай зямлі, якая, на думку В.Гардзея, самая прыгожая і пяшчотная.І куды б ні закінуў лес, ён заўседы адчувае сваю непарыўную еднасць з бацькоўскім краем.

Родам з Ганцаўшчыны літаратар Алесь Каско. Яго творы — разважанне аб сутнасці жыцця і месцы, прызначэнні чалавека ў свеце, філасофскія роздумы аб вечным,перажыванні за лес роднай мовы.Радзіма для яго — "край мудрасці і спагады, адвечны палескі край", невычэрпная крыніца натхнення і душэўнай моцы.Роднаму краю паэт зычыць: "Будзь велічны і багаты і шчодрасці нам дадай".

Родныя палескія краявіды ажылі ў вершах Уладзіміра Марука. Паэт дэтальна абрысоўвае ўнутраны свет лірычнага героя, жывапісна паказвае ўзаемаадносіны чалавека і прыроды.У яго вершах такія знаёмыя, простыя знешне і адначасова дарагія нам вобразы, глыбокі сэнс, адвечная народная мудрасць і сціплая чысціня прыгажосці палескага пейзажу.

Дзясяцікласнікі чыталі на памяць творы паэтаў-землякоў, у выкананні калектыва юных скрыпачак школы прагучалі мелодыі беларускіх кампазітараў. Асаблівую атмасферу і настрой стварылі вершы, што пакладзены на музыку і сталі ўжо песнямі. Услед за выканаўцамі-вакалістамі іх словы, матыў падхоплівалі слухачы і чытальнікі, госці.

Літаратурнае падарожжа адкрыла для нас новыя імёны, новыя старонкі ў літаратуры, дазволіла глыбей зазірнуць у скарбніцу культуры, дакрануцца душою да нашай агульнай найкаштоўнейшай спадчыны — слова народа.

**Вольга Вольніч, 16 год, Гімназія г. Ганцавічы**

## Зялёны скарб

На скрыжаванні ўсіх шляхоў
Ляжыць краіна – Беларусь,
Багаццем славіцца з вякоў,
Асноўны скарб – лясны абрус.

Тут волат-дуб, прыгожы клён,
Бярозак стройных карагод.
Арэшнік б’е зямлі паклон,
Ялінка – госць на Новы год.

А вось высокая сасна –
То птаства рознага калыска,
Красою радуе яна,
Зірнеш – адчуеш: шчасце блізка.

**Пабудзей ВАДЗІМ, 16 год, Востраўскі дзіцячы сад-сярэдняя агульнаадукацыйная школа імя Міхася Рудкоўскага (Ганцавіцкі раён)**

**Зямлю трэба любіць**

Я вельмі люблю сваю радзіму, сваю Беларусь. Ёсць у Беларусі такія мясціны, куды хочацца вяртацца зноў і зноў. Я хачу вяртацца заўсёды ў сваю любую вёску, мой родны Востраў.

Мая родная веска заснавана вельмі даўно. Першыя паселішчы, якія размяшчаліся на тэрыторыі цяперашняй вёскі, былі з усіх бакоў акружаны балотамі. І таму было цяжка дабірацца да горада, каб купіць нешта на кірмашы, або да другой вёскі. Адсюль і назва вёскі, - Востраў.

Гэтае месца вельмі прыгожае, і толькі тут можна спакойна адпачыць. Недалёка ад дома працякае маленькая рачулка, якая завецца Начанка . Я люблю яе, люблю дрэва, якое нахілілася да вады, — цэта іва. І калі мне сумна, я прыходжу да івы і, усеўшыся на ствол, апускаю ногі ў ваду і боўтаю імі. Мне прыемна назіраць, як палошчуцца галінкі ў рацэ. Адразу на душы становіцца добра, усё здаецца прыгожым, і я разумею, што гэта лепшае месца ў свеце. Гэта іва - мой псіхолаг і дарадца. Тут я мару, сумую, гартаю старонкі свайго жыцця.

Недалёка ад хаты, у лесе, ёсць мая любімая горачка. Мне падабаецца раніцай узбірацца на яе, калі толькі прачынаецца сонейка, і стаяць, падняўшы рукі. Тады здаецца, што я трымаю сонейка ў сваіх руках. А яшчэ я люблю ноччу глядзець на зоркі, бо тут яны самыя яркія, самыя вялікія, нібы жывыя, і пераміргваюцца ў небе паміж сабой і міргаюць мне, як лепшаму сябру. Такія моманты ў вялікім горадзе не ўбачыш.

У родных мясцінах я ведаю кожную сцяжынку, кожную кветачку каля хаты. У Востраве любяць дрэвы, шмат іх саджаюць. Я лічу, што дрэва — гэта сімвал жыцця, стойкасці, трываласці. Кожную вясну яны нам даруюць радасць жыцця. Мой дзядуля ў маладосці вельмі шмат насадзіў яблынь, якія даюць кожны год шмат яблыкаў. А яшчэ мой дзед любіць зямлю, любіць працаваць на ёй. Усё сваё

працоўнае жыццё ён аддаў зямлі, і яна шчодра ўзнагароджвала новымі ўраджаямі. З маленства пачаў працаваць на зямлі, бо рана застаўся сіратой, а трэба было карміць яшчэ маленькіх сястрычак. Дзядуля хоць і стары, але да гэтага часу не разлучаецца з зямлёй. Ён

кажа, што без зямлі не зможа існаваць, што зямля — гэта яго сэрца, яго душа. Кожную раніцу ён рана прачынаецца і едзе працаваць на сваю зямлю. Мне часта гавораць, што я павінен любіць зямлю, бо яна наша карміцелька. Калі я хаджу да дзеда, то абавязкова дапамагаю. Мне там падабаецца, калі на лузе цвітуць лугавыя кветкі, падабаецца назіраць за нівай, калі вецер пачынае калыхаць яе. А словы дзядулі "Зямлю трэба любіць" я нясу па жыцці і, напэўна, не забуду ніколі.

**Вераніка АРЭШКА, 12 год, Востраўскі дзіцячы сад-сярэдняя агульнаадукацыйная школа імя Міхася Рудкоўскага (Ганцавіцкі раён)**

**А вёска жыве**

Дзень добры, Міхась Міхайлавіч Рудкоўскі! Прывітанне, мой дарагі зямляк! Вітаю цябе з тваё радзімы, з маленькай і прывабнай вёсачкі на Палессі, з нашага Вострава. Цябе няма сярод нас, а веска, твая родная веска, - жыве. Праўда, няма ўжо тых дубоў на ўзлеску, камянёў ля дарогі, якія памятаеш ты. Па-новаму жывуць і нашы з табой землякі: рэдка сустрэнеш фурманку, жанчыну з сярпом, мужчыну з касой, дзетак у зрэбных кашулях. Толькі прырода жыве сваім нязменным жыццём: квітнеюць сады, ляцяць буслы і ластаўкі з выраю, нясе свае воды наша рачулка Начанка. Кожны год ля лесу крычаць журавы, абуджаючы сваімі крыкамі ўсё наваколле. Здаецца, іх крыкі чуеш і ты. А на месцы твайго вечнага жыцця , каля гранітнага помніка, не знікаюць кветкі ўдзячнасці за творчасць і неймаверную любоў да радзімы, да землякоў. Ідуць людзі да помніка, спыняюцца, глядзяць табе ў вочы, і кожны, напэўна, думае : "Ляжы спакойна, наш дарагі Міхась, твая вёска жыве..."

© Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2013
© PDF: Камунікат.org, 2013

**ЗМЕСТ:**



Літаратурна-мастацкае выданне

**Адкрыццё-2011**

Зборнік лепшых твораў удзельнікаў літаратурнага конкурсу
“Суніцамі пахне Айчына”

Укладальнік і рэдактар
Анатоль Крэйдзіч